Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

№ 9 Чацьвер, 31 Ліпня 1924 г. Год I.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць два разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 20 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4.
(Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз.
Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр.; у тэксьце — 10 гр.; на апош. стар. — 5 гр.

## Дзесятыя ўгодкі.

1-га жніуня гэтага году споуніцца дзесяць гадоу з таго дня, калі ваенны пажар ахапіу, за нязначнымі выняткамі, усю Эуропу. Апрача найдужайшых эуропэйскіх дзяржавау у нячуванай ніколі вайне прынялі удзел усе часьці зямное кулі, усё азьвярэла, у працягу больш як чатырох гадоу жыцьцё усяе Эуропы, перастроіушыся на ваенны лад, вылятала хмарамі парахавога дыму у паветра.

І у гэтым шалёным віхры сьмерць пажынала плады чалавечае нянавісьці так, як яшчэ ніколі на грэшнай зямлі.

Закончыуся віхар, сьціх грукат гарматау, змучаны зямны сьвет пачау укладаць жыцьцё у новыя рамкі.

Зьніклі з эуропэйскае географічнае карты магутныя дзяржауныя арганізмы, нарадзіліся новыя дзяржавы цаною нялічаных ахвярау, усё чалавецтва кінулася гаіць глыбокія раны—рэзультат узаемнае калатні.

За што вялася вайна?

На пытаньне гэтае й сягодня яшчэ кожны гатоу адказаць пасвойму.

Старая прыказка кажа, што «пераможцау ня судзяць».

Але-ж бяспрыкладная сусьветная разаніна толькі на выгляд скончылася перамогай аднае стараны і поуным пабоем другое.

Як пераможцы, так і пераможаныя блізка што аднольвага адчуваюць боль нябывалых у гісторыі патрасеньняу і усеэурапэйскія дыплёматычныя сілы ламаюць галаву над тым, каб увясьці жыцьцё у нармальную каляіну ды каб ухіліць— ці, прынамсі, адсрочыць якнайдалей магчымасьць паутарэньня жудасьцяу нядауна мінулых гадоу.

А разруха ад вайны ня можа паддацца ніякаму апісаньню. Адных ахвярау забітымі налічаюць каля 10 мільёнау. І усё гэта — творчая чалавечая сіла, энэргія некалькіх пакаленьняу. Калекау, сірот і удовау ніхто яшчэ не падлічыу. Гарачы тэмп жыцьця, стаушага нязвычайна цяжкім, не дае людзям спыніць увагу на хутка пройдзеным, але праз меру крывавым, шляху вайны.

Жыцьцё бяжыць наперад.

І ніводзін хіба куток зямлі ня быу гэтак скрыуджаны падзеямі крывавых ваенных гадоу, як Зямля Беларуская. І яе-ж сыны пабывалі у баёх за чужыя, ліха ведае якія ідэалы, калі ідэалы гэтыя наагул істнавалі, бо хутчэй былі адны толькі нізкія сваякарысныя мэты галоуных дырыжэрау вайны, пушчаушых у натауп высокагуманныя лёзунгі.

Скрываўленая, стоптаная вайною Беларусь выйшла з яе парэзанаю на кавалкі і за гэтую жудасную цану купіла сабе усяго толькі *прабуджэньне ад векавога сну і зразуменьне свае сатабытнасьці.*

Неумалімая сіла падзеяу выпісвала гісторыю на целе Беларусі, як толькі хацела. Заняпаушы Народ наш ня меу пры гэтым поунага голасу. Апрача ваенных падзеяу па Зямлі Беларускай ад краю да краю, дзе мацней, а дзе крыху слабей пракаціуся экспэрымэнт соцыяльнае рэвалюцыі. Больш-менш спакойнае жыцьцё пачало астойвацца на Беларусі хіба што найпазьней за той ці іншы куток Эуропы

Народ наш можа пахваліцца (калі хваліцца гэтым можна!) адным толькі крыудамі, якія прычыніла яму крывавая эпоха. Пахваліцца можа толькі тым, што ён у рэзультаце усяго, застауся пакрыуджанаю стараною, а сам нікога ня скрыудзіу.

Ці-ж хоча ён крыуды для каго-нібудзь? Ці не жадае ён творчага адбудаваньня патрачаных вартасьцяу?

Так, народ Беларускі ведае смак крыуды, балюча адчутае на сваёй мужыцкай шкуры і калатні ён напэуна жадаць ня можа.

Варункау спакойнага, творчага жыцьця, загойваньня глыбокіх сваіх ранау, выкоуваньня сваіх нацыянальных і агульна-чалавечых вартасьцяу патрэбна народу.

І вось тут у беларускіх вёсках, трапіушых воляю лёсу у межы Польшчы, дзе яшчэ у памяці магільны дух нялюдзкае нямецкае окупацыі павінна пачацца тварэньне неперахoдных вартасьцяу.

Польскі народ ня можа быць зацікаулены у аканчальным патрачаньні беларусамі сваіх нацыянальных асаблівасьцяу. і гэта ужо пачынаюць разумець навет некаторыя рэакцыйныя кругі польскага грамадзянства, якому само жыцьцё патрапіць заусёды даказаць, што *беларусы зьяуляюцца народам.*

У дзесятыя угодкі сусьветнага пабоішча варта ня толькі з жахам азірнуцца назад, але не пабаяцца цьвяроза глянуць уперад, у няясныя гады будучыны, каб супольнымі сіламі магчы згадаць яе ды пастарацца усё зрабіць лепей, каб унікнуць магчымасьці паутарэньняу бязглуздае руйнацыі і шкодных усяму жывому жахау вайны.

## Крок назад.

Газэты ўжо паведамілі аб тым, што законапроекты аб мовах нацыянальных меншасьцяў у Польшчы пры разглядзе іх у злучанай адміністрацыйна-юрыдычнай камісіі Сэнату падпаліся прынятым і ў пленуме Сэнату папраўкам, досіць такі незразумелым, ці, праўдзівей кажучы, ні на чым не абапёртым.

Ці так ужо абавязкова мусіць быць, што ўсякі, прыняты Соймам закон, павінен не абмінуць сэнацкіх агаворак?

Адміністрацыйна-юрыдычная камісія Сэнату проста, невядома чаму, пастанавіла, каб языковыя законы аб судох і адміністрацыі былі ўведзены ў жыцьцё аж з 1-га красавіка 1925 году, а не з кастрычніка месяца бягучага году, як пастанавіў Сойм.

Чым усё-ж такі кіравалася сэнацкая камісія, робячы падобную агаворку?

З гэткаю самаю ўдачаю сэнацкая камісія магла-б (бо гэта яе права) пастанавіць, што закон аб роднай мове ў судох варта было-б увясьці ў жыцьцё, напрыклад, з якога нібудзь красавіка месяца 1930 году. І тады ўжо хаця-б відаць было, што гэткая папраўка проста зьяўляецца адцяжкаю і што сама справа новага, ў дзяржаўным жыцьці Польшчы, закону трактуецца ня сур'ёзна.

Здавалася-б — калі языковыя законы саўсім насьпелі, дык няма чаго ўжо хаваць іх толькі дзеля таго, каб выляжаліся.

У Сойме-ж гэтыя законы праходзілі з нязвычайнай пасьпешнасьцю, а ў Сэнаце падобнаю вышэйназванаю папраўкаю ўся гэта пасьпешнасьць перакуляецца дагары нагамі і сэнатарская мудрасьць сяброў адміністрацыйна-юрыдычнае камісіі знаходзіць, што з увядзеньнем меншасьцявых моваў у судох ды адміністрацыі можна яшчэ й пачакаць.

Гэткае зданьне камісіі было ўзята пад ўвагу і пленумам Сэнату, пастанавіўшага ўвясьці ў жыцьцё два языковыя законы (датычна судоў і адміністрацыі) з 1 красавіка 1925 году.

Усё шчасьце ў тым толькі, што пастановы Сэнату, паводлуг Канстытуцыі, ня маюць рашучага значэньня і, калі Сойм застанецца на пазыцыі ранейшага ўвядзеньня ў жыцьцё языковых законаў, дык так яно й будзе.

Бо йначай, калі згадзіцца з незразумелаю сэнацкаю папраўкаю, што-ж павінна быць да зачарованае даты 1 красавіка 1925 г.?

Павінна й надалей быць тое, што ёсьць?

Але нашто-ж тады й агарод гарадзіць!

Будзем спадзявацца, што адцягваньне часу правядзеньня ў жыцьцё языковых законаў не прайдзе і Сойм на сэнацкую папраўку ня згодзіцца.

Нельга дапусьціць і таго, каб Сойм мог пагадзіць свой пункт гледжаньня на справу датычна яшчэ аднае прынцыпіяльнае сэнацкае папраўкі да языковых законаў, а ласьне да закону аб роднай мове ў школах.

Тое месца школьнага закону, дзе гаворыцца, што **калі ў даным школьным абводзе не набярэцца 25 дзяцей, якіх бацькі хочуць школы на дзяржаўнай мове, дык выкладовай моваю павінна быць іншая (меншасьцявая) мова — Сэнатам зьменена так, што замест цыфры 25 прынята 20.**

Дзіўны крок назад, зроблены Сэнатам.

У той час, як Конституцыя Рэспублікі прызнае ўсіх грамадзян Польшчы, незалежна ад іхняе нацыянальнасьці, роўнаправнымі, — Сэнат Рэспублікі паглыбляе ранейшую недэмакратычнасьць школьнага-закону яшчэ тым, што школьныя правы, напр., беларускага насяленьня якраз напалову робіць меншымі ў параўнаньні з правамі тых, хто захоча школы на дзяржаўнай мове.

Дзе-ж тут роўнапраўнасьць, забясьпечаная Конституцыяй і самым простым прынцыпам дэмакратыі, калі, скажам, беларусам дзеля адчыненьня школы на сваёй роднай мове трэба мець комплект шкаляроў ня меншы за цыфру 40, а калі да гэтых 40 дзяцей знойдзецца толькі 20 (паводлуг соймавай пастановы 25) дзяцей, бацькі якіх пратэндуюць на выкладаньне навукі папольску—дык школа, згодна з законам, павінна быць двухмоўнаю.

Простая арытмэтычная прапорцыя ясна паказвае прывілейнае палажэньне аднае групы акраіннага насяленьня перад другою і добра было-б, каб языковыя законы ў жыцьцё прайшлі, прынамсі, ў постаці, прынятай Соймам, а само жыцьцё ў будучыне іх удасканаліла.

**Н. Л.**

---

*Газэту прачытай і перадай суседу!*

*Той, хто умее чытаць, ніколі не палянуйся прачытаць няпісьменнаму!*

— **Дацкія** социялісты запрапанавалі прызнаць ангельскаму прэм'еру Мак-Дональду нобэлеўскую прэмію міру за гэты год.

— Венскае інформацыйнае бюро паведаміла, што ў **Белградзе** (сталіцы Югаславіі) паліцыя раскрыла шырокі згавор проці караля **Аляксандра** і Пашыча. На чале арганізацыі стаяў шэф расейскае сэкцыі югаслаўскага міністэрства заграні́чных справаў Тарашэвіч.

— У **Румыніі** абвешчана асаднае палажэньне. Ваенны камэндант Букарэшту забараніў усялякія публічныя сабраньні, якія маюць на мэце крытыку дзяржаўнага парадку.

— З **Масквы** паведамляюць, што камісар заграні́чных справаў Чычэрын паважна захварэў і прымае толькі найбліжэйшых прыяцялёў.

— Як паведамляюць газэты, новы савецка-японскі дагавор зьмяшчае ў сабе гэткія пастановы: 1) дыплёматычныя зносіны, 2) апаражненьне паўночнай часьці Сахаліну, 3) падпісаньне гандлёвага трактату, 4) стрыманьне палітычнае пропаганды, шкоднае другой дагаворнай старане, 5) японскія концэсіі на Сахаліне.

— 25 ліпня **нямецкі** рэйхстаг прыняў у трэцім чытаньні проект бюд'жэту, проці якога галасавалі камуністы, соцыяль-дэмократы і нацыянальныя соцыялісты. Нямецкая нацыянальная партыя стрымалася ад галасаваньня.

— Паводлуг газэтных вестак, у хуткім часе паміж Італіяй і С. С. Р. Р. будзе зроблены дагавор датычна эксплёатацыі Данецкага вуглявога басэйну мяшаным савецка-італьянскім консорцыюмам.

— Прэзыдэнт **Кітайскае** рэспублікі ў мінулы чацьвер офіцыяльна прыняў нованазначанага савецкага пасла Карахана.

— Як тэлеграфуюць з Масквы, **Харвацкая** рэспубліканска-сялянская партыя Радзіча прылучылася да Сялянскага Інтэрнацыяналу.

— **Ангельскі** кароль зрабіў перагляд флёту ў Портсмуце, пасьля чаго адбыліся манэбры з удзелам 200 ваенных караблеў.

— У **Югаславіі** злажыўся новы кабінэт міністраў на чале з лідэрам опозыцыйнага блёку Давідовічам.

— Паўстаўшы ад землетрасеньня, вульканічны востраў на Азоўскім моры празваны востравам Леніна.

— Будынак расейскага пасольства ў Шанхаі (Кітайшчына) аддадзены бальшавіком.

— Пасьля правалу **літоўскім** парлямэнтам інтэрпэляцыі нацыянальных меншасьцяў аб распараджэньні адміністрацыі карыстацца ў абвестках і на шыльдах выняткова толькі літоўскаю моваю, — нязгодна з конституцыяй — ўсе прадстаўнікі нац. меншасьцяў дэмонстрацыйна выйшлі з залі паседжаньняў.

# Агляд прэсы.

По выхадзе сваім з партыі, пасол Тугут зьмясьціў у „Wyzwoleniu“ адкрыты ліст гэткага зьместу:

Польшча ў сучасны момэнт знаходзіцца ў такім цяжкім палажэньні, ў якім ня была з часоў адраджэньня гаспадарства, калі ня лічыць бальшавіцкага наезду. Аздараўленьне фінансаў, праўда, значна пасунулася ўперад, але ня гэтулькі, каб можна было лічыць яго скончаным. Эканамічнае палажэньне пагаршаецца з кожным днём. Селянін мрэць з голаду, тысячы работнікаў выкідаюцца штодзень на вуліцу. З боку міжнароднага праспалі некалькі гадоў на мягкай пасьцелі больш-менш дрэнных трактатаў і цяпер прачыхаемся з усьведамленьнем пагражаючай нам небясьпекі: нашы, нібы засьцерагаючыя нас, хаўрусы могуць быць зьніштожаны, а з вонкавага змроку чуецца толькі рыканьне нашых ворагаў і пачуцьцё бязудзельнасьці, паняверкі і зьнявагі што да нашага гаспадарства. На нашых крэсах пануе такое палажэньне, што калі ў працягу некалькіх гадоў ня зробіцца зьмен, то будзем мець там аружнае паўстаньне, каторае ці адарвець у нас некалькі провінцыяў, ці павінны будзем загасіць яго ў моры крыві. Цікавяцца намі толькі бальшавікі, каторыя завадняюць нас наплывам шкадлівай агітацыі. Было-б паўбяды, каб гэтага эвангельля ненавісьці слухалі толькі з прычыны пераходнай нэндзы. Але, нажаль, яго слухаюць таксама ахвотна, глеадзячы на няздольнасьці нашай адміністрацыі, ў каторай нікому ні ў чым ня верачы і нікога ня робячы адпавядальным, не прасьледуецца ніякае злачынства. Ігнаруюцца грамадзяне, ігноруюцца іхні самыя справядлівыя грамадзянскія патрэбы. Трудна ўсяму гэтаму знайсьці іншы выраз, апрача таго, якім была ахрышчана гінучая шляхэцкая Польшча: г. з. непарадак. Калі хто цешыцца, што гэтым непарадкам Польшча трымаецца ўжо колькі гадоў, то хай памятае, што Варшаўскае княства трымалася пяць гадоў, а Кангрэсовае Каралеўства 15 гадоў, а затым загінулі, і што прычынай гэтай пагібелі была нятолькі перавага ворага, але таксама недахват уласнай арганізацыі, недахват сілы характараў, і перад усім ня досіць моцная сьвядомасьць грамадзянскіх абавязкаў да гаспадарства.

У гэткіх самых колерах малюе міжнароднае палажэньне Польшчы і пасол Казіцкі, задаючыся пытаньнем аб выхадзе пасла Тугута. Ен піша:

Трэба быць сьляпым, каб ня бачыць, што Польшча павінна будзе перажыць у блізкай будучыне цяжкае палажэньне. Эканамічнае адраджэньне Нямеччыны павінна будзе давясьці яе да палітычнай моцы; грамадзянскі настрой Нямеччыны, а таксама ваенныя прыгатаўленьні, ясна сьведчаць аб тым, што немцы рыхтуюцца да аднаўленьня адносін, істнаваўшых у 1914 годзе, г. з. вярнуць свае тагочасныя граніцы і сваё палажэньне ў сьвеце. З другога боку, ў Радавай Расеі істнуе пастарому радавы лад, а тварцы яго зусім не хаваюць сваіх замераў пашырыць яго на ўвесь сьвет. У рэшце прымушае іх да гэтага неабходнасьць, бо добра ведаюць, што бальшавізм мусіць у Расеі згінуць, калі не ўмацуецца ў іншых гаспадарствах. Ці можа хто сьцвярдзіць, што Польшча ўхінецца ад цяжкіх дзён навальніцы? Да гэтых дзён трэба рыхтавацца і на гэта ёсьць адзіны спосаб, выпрабаваны тысячагадовай гісторыяй чалавецтва: „. . . быць моцным і мець моцных прыяцялёў“.

„Kur. Poranny“, выступаючы у абарону кандыдатуры п. Скржынскага у міністры заграні́чных справаў, ня можа сабе уцяміць прычыны незадаваленьня правіцы, асабліва пасьля таго, як яна так моцна стаяла за кандыдатуру пасла Тугута, гэтага штандаровага палітыка польскай лявіцы. То-ж:

Пасол Тугут тэтулькі-ж мала мае агульнага з правіцай, як і Аляксандар Скржынскі з лявіцай. Розьніца ў тым, што правіца паказвала на Тугута, думаючы аб міністэрскім партфэлю для Станіслава Грабскага, ў той час як лявіца, паказваючы на Ал. Скржынскага, думае толькі аб карысьці гаспадарства, каторае ня можа далей заставацца з паражнём і безгалоўем перад заграніцай".

Далей газэта тлумача, чым Ал. Скржынскі зыскаў сымпатыі левых.

Калі гэн. Сікорскі зазваў пасла ў Букарэшце на пост міністра заграні́чных справаў—лявіца спаткала гэта досіць кісла. Аб ім нічога ня было ведама, апрача таго, што ён зрабіў саюз з Румыніяй і нарыхтаваў сардэчны і адпаведны прыём вышэйшага прадстаўніка Рэспублікі. Апроч гэтага, рэшта ўся гаварыла не на карысьць яго, калі гутарка йдзець аб сымпатыі лявіцы. Па паўгадавым кіраўніцтве, Скржынскі, адкінуўшы шаблёны пасыўнасьці нашай дыплёматыі, правёў міжнародную ратыфікацыю нашых усходніх граніц— супроць захадаў нашых прадстаўнікоў у Лёндане і Парыжы—і давёў барацьбу за Яворжыну да перамогі, зьбясцэненай спыненьнем кабінэту гэн. Сікорскага правацэнтравым саюзам. Ось усё, што па-

---

цыі, цёмнага натаўпу, замест протэсту і барацьбы з імі, абароны свае партыйнае пазыцыі і гуртаваньня каля яе палітычных аднадумцаў,—паказвае нам на адсутнасьць у гэных людзей яснае палітычнае думкі, бяспрынцыпнасьць, расхлябанасьць і нізкі опортупізм.

Аднак-жа „работа” ўдалася!

Радыкальныя ярлыкі і дэмагогічныя пасулы, йдучыя па лініі бяскрытычных жаданьняў сялянскага максымалізму, зрабілі сваё!

Мэта была дапята!

Беларуская лявіца выбары выйграла! Вось-жа гэныя паночкі, або лепш „таварышы“ пачуўшыся бесканкурэнтнымі „панамі палажэньня”, наглеюць і пачынаецца фармальны партыйны тэрор! Памяркованыя, сапраўды беларускія, нацыянальныя элемэнты, шчырыя дэмакраты залічваюцца да „буржуяў“, „рэакцыянэраў“! „Захадняя“ орыентацыя аб'яўлена „вне закона“.

Имкненьне да паразуменьня і мірнага сужыцьця з Польшчай мянуецца „здрадай“!

Яшчэ горш тое, што нат разважаньні аб гэных пытаньнях не дапушчаюцца, бо ўсё лічыцца акапчальна вырашаным і не падлягаючым дыскусіі!

Ніякіх contra, ніякіх рэплік!

„Roma locuta, causa finita!”.

Бальшавіцкі „курс“ і ўсходняя орыентацыя ўзмагаюцца сярод беларускага грамадзянства пасьля пашырэньня „Савецкае Беларусі“, праз далучэньне да яе кавалкаў Віцебшчыны і Магілёўшчыны і пад уплывам нясумленнае і безадказнае пропаганды, спанаванае праз лявіцу беларускае прэсы, якая займаецца, зусім адкрыта, бяскрытычнай хвальбой „Савецкае Беларусі“ і бальшавіцкага ладу, ды падбураваньнем жыхарства супроць Польшчы і вялікіх дэмакратыяў Захаду. Адначасна з тым бачым у памянёных газэтах і зьяўленьне анты-рэлігійнага напрамку, заведзенага ў мэтах дапасоўкі да бальшавіцкіх поглядаў, варожых усякай рэлігіі.

Дзякуючы гэнай няўстыднай газэтнай агітацыі, ачмучанае імі беларускае грамадзянства, пахіляець галовы ўсё мацней на Усход, не выключаючы нат' некаторых ксяндзоў (што сапраўды зьяўляецца трагі-камічным!), ня здаючы сабе справы з запраўднага стану рэчаў „там“ і паддаючыся салодкім ілюзіям і міражам, падтрымліваемым пэрспэктывай, аддаленьнем, гэнага, думаннага беларускага Эльдорадо, а створаным газэтамі і патрыятычнаю тугой па ўласным незалежным Ерусаліме...

Дзьве беларускія газэты: „Krynica“ (друкуецца лацінскаю) і другая, якая ў сваёй апошняй інкарнацыі носіць дзівачны назоў „Сын Беларуса“, друкованы гражданкаю, калі і маюць пэўную розьніцу ў адносінах да бальшавізму, (першая дапускае невялічкую крытыку яго, а другая пластом ляжыць прад ім), то ў краіне заклікаў да соцыяльнай барацьбы, яны ад'значаюцца поўным пабратымствам і прост такі ідуць навыперадкі, конкуруючы паміж сабою ў здабываньні таннае популярнасьці, пры помачы найагіднейшае дэмагогіі, іграньня на найніжэйшых струнах чалавечае душы, разбуджаваньня найгоршых інстынктаў.

Вось адзін, асабліва яркі, прыклад гэткае партыйнае дэмагогіі:

„Голас Беларуса“, абуджаючы прагавітасьць да чужое маемасьці, іграючы на струне „зямельнага голаду“ мажаць селяніна, як салам па губе, смашнай і апэтытнай думкай аб адабраньні гэнае зямлі ад „пана“ і аддачы яе яму задарма, бяз выкупу!

Думка, няма слова, апэтытная!

Вось-жа „Krynica“, пацеючы над тым, каб неяк перавысіць свайго дастойнага суседа, выкідваець у канцы гэткую штуку: яна навучае беларускага селяніна, што ня толькі трэ' зямлю забраць ад пана бяз выкупу, але... пан яшчэ мусіць заплаціць селяніну за тое, што карыстаўся дасюль сваёй-жа зямлёй !!!

Дзякаваць толькі Богу, што няма трэйцяе беларускае газэткі гэткага напрамку, бо калі-б яна істнавала, то знайшлася-б у надта-ж труднай сытуацыі, калі-б зажадала перавысіць дзьве памянёныя, хоць-бы ў даным выпадку!

Бо тутака „Krynica“ ўзяла гэткую высокую ноту на скрыпцы клясавае дэмагогіі, што далей ужо няма куда ісьці!

Тое-ж самае бачым у краіне адносінаў памянёных газэт да Польшчы і Захаду.

П.

*(Канец у чародн. нумары).*

